ГРОДНА
№13 (588),
26 чэрвеня 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Паверылі і прынялі Бога




*Святыя Пётр і Павел – дзве розныя гісторыі паклікання і жыцця для місіі аднаго Касцёла.*

на старонцы 2

## Юбілей старэйшага салезіяніна ў Беларусі




*У смаргонскай парафіі св. Міхала Арханёла ўрачыста адзначылі 60-годдзе святарства і 70-ую гадавіну манаскага жыцця ксяндза каноніка Здзіслава Вэдэра SDB.*

на старонцы 4

## Ці можа святар быць дарадчыкам у сямейных справах?




*У асобе святара мы сустракаем не проста чалавека з тэарэтычнымі ведамі, але асобу са шчырым жаданнем служыць.*

на старонцы 6

## КРЫЗІС ПАКЛІКАННЯЎ: РАЗВАЖАЮЧЫ І АНАЛІЗУЮЧЫ




*Гродзенская семінарыйная супольнасць падчас заканчэння 2021–2022 навучальнага года*

**Толькі ў Гродзенскай дыяцэзіі функцыянуе 16 дэканатаў, у якія ўваходзіць каля 170-ці парафій. Вядома, што частку вясковых парафій ахоплівае адзін ксёндз. Тым не менш, святароў, якія выпускаюцца з дыяцэзіяльных і манаскіх семінарый, нашмат менш. Чэрвень жа ў нашай дыяцэзіі быў аб'яўлены месяцам малітвы аб новых пакліканнях да паслугі ў Касцёле на Гродзеншчыне.**

на старонцы 3

## ПРАКТЫКУЮЧЫ ПСІХОЛАГ: “ТРЭБА АДКАЗНА СТАВІЦЦА ДА АДПАЧЫНКУ”

**Тэма г. зв. work-life balance (балансу праца-жыццё) займае адно з цэнтральных месцаў у штодзённасці сучаснага чалавека. Разам з будаваннем кар'еры і самаразвіццём людзі імкнуцца не згубіць сябе, свае патрэбы і адносіны з блізкімі. З Ірынай Шмак, псіхолагам са шматгадовым досведам, разбіраемся, як не выгараць на працы, любіць сябе і іншых, а таксама эфектыўна дзейнічаць на працягу доўгага часу.**

на старонцы 5



СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!



Летнія месяцы ў нас асацыіруюцца з адпачынкам. За гэты час праводзяць дух не толькі дзеці. Дарослыя таксама адпачываюць. Святары і асобы кансэкраванага жыцця адпраўляюцца на рэкалекцыі, каб набрацца сіл і пабыць сам-насам з Богам.

Аднак ёсць такія людзі, якім трэба загадаць адпачыць. Такім чалавекам быў, напрыклад, Караль Вайтыла, будучы папа Ян Павел II. Калі ён стаў біскупам у Кракаве, першы год працаваў у такім тэмпе, што не вытрымала здароўе, а потым, калі набываў новы каляндар, урачы рэкамендавалі яму ўпісваць туды тыдзень адпачынку зімой і два тыдні летам.

Варта прысвяціць гэты час сваім блізкім, больш увагі надаваць дзецям і моладзі. Варта прачытаць добрую кнігу, а таксама хаця б на некалькі дзён куды-небудзь выехаць. Адпачынак паказвае нам, кім з'яўляецца Езус у нашым жыцці. Калі мы працуем з раніцы да вечара, апраўдваемся, што не паспяваем. Канікулы прызначаны для таго, каб шчодра аддаць гэты час Езусу, аддаць яго сабе ў сустрэчы з Ім. Канікулы могуць многае расказаць нам пра нашу веру.

Жадаю добрых канікул і добрага адпачынку, а таксама духоўных поспехаў у пошуках шчасця!

*ks. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**28 чэрвеня**

***Успамін св. Ірэнэя, біскупа і мучаніка.***

*Св. Ірэнэй нарадзіўся ў Смірне каля 130 года. Ён быў вучнем мясцовага біскупа – св. Палікарпа, вучня св. апостала Яна. Кіруючыся апостальскім духам, адправіўся ў Галію і стаў біскупам Ліёна. Як выдатны тэолаг ён змагаўся ў сваіх працах супраць гностыкаў, паказваючы, што толькі Касцёл верна захоўвае традыцыю, атрыманую ад апосталаў. Быў забіты ў Ліёне ў 202 годзе.*

**30 чэрвеня**

***Успамін свсв. Першамучанікаў Рымскага Касцёла.***

*У гэты дзень мы ўспамінаем святых, якія засталіся безыменнымі і загінулі ў жорсткіх катаваннях падчас ганенняў, што ўспыхнулі пры імператары Нероне ў 64 годзе і працягваліся да 67 года. На думку тагачасных гісторыкаў, хрысціяне (называемыя так з пагардай) абвінавачваліся ў любых няшчасцях ці бедах. Іх таксама абвінавацілі ў тым, што яны выклікалі пажар, які бушаваў у Рыме на працягу некалькіх дзён, спусташаючы цэлыя кварталы. Жорсткасць, з якой іх пазней забівалі, была настолькі вялікай, што выклікала абурэнне нават у саміх рымлян, увогуле талерантных да іншых рэлігій. Хрысціян спальвалі жыўцом, кідалі на раздзіранне дзікім жывёлам, укрыжоўвалі або секлі мячом.*

**8 ліпеня**

***Успамін св. Яна з Дуклі, прэзбітэра.***

*Св. Ян нарадзіўся ў Дуклі ў 1414 годзе. Вучыўся ў Кракаўскім універсітэце. Па парадзе св. Яна Канты, уступіў у ордэн францысканцаў і, пасвечаны ў святары, служыў у розных кляштарах Польшчы. Пад уплывам св. Яна Капістрана перайшоў да бернардынцаў. Як бернардынец дзейнічаў у Кракаве, Познані і Львове. Памёр у Львове 29 верасня 1484 года.*

**9–10 ліпеня**

***Адпустовыя ўрачыстасці ў марыйным санктуарыі ў Тракелях.***

*Сёлетнія адпустовыя ўрачыстасці ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Каралевы нашых сем'яў у Тракелях пройдуць пад дэвізам "З Марыяй да супакою і еднасці". Да ўдзелу ўсіх дыяцэзіян запрашае біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.*

# ПАВЕРЫЛІ І ПРЫНЯЛІ БОГА

*працяг са с. 1*

**Святых апосталаў Пятра і Паўла, а таксама іх уклад у развіццё Касцёла можна параўнаць з роляй лёгкіх у арганізме чалавека. Бог стварыў нас так, што маем два лёгкіх, якія супрацоўнічаюць і з'яўляюцца неабходнымі для нашага здаровага жыцця. Падобна з Пятром і Паўлам. Два вучні Езуса – дзве розныя гісторыі паклікання і жыцця для місіі аднаго Касцёла.**

*Кс. Юрый Марціновіч*




### ПЕРШЫ СЯРОД АПОСТАЛАЎ

Першым, хто сустрэў Езуса і паверыў, быў св. Пётр. Езус паклікаў яго ад працы рыбака. Затым ён стаў рыбаком людзей. Заслуга Пятра ў тым, што ён першым з апосталаў прызнаў Езуса Месіем.

З Евангелля можам даведацца, што Пётр быў імпульсіўным чалавекам. Меў таксама свае слабасці. У парыве эмоцый ён прысягнуў на вернасць Езусу. І разам з тым, перш чым праспяваў певень, у тую ж ноч тройчы выракся Настаўніка. На шчасце, Пётр не ўсумніўся ў Божай міласэрнасці. Горка плакаў, але таксама прыняў у сэрца прабачэнне Хрыста, пасля ўваскрасення якога тройчы вызнаў любоў і адданасць Яму. Пётр быў верны да канца жыцця, якое аддаў як мучанік за веру. Езус зрабіў яго першым сярод апосталаў, і лічыў сябе рэлігійным чалавекам. Трымаўся Закона Старога Запавету, вельмі добра ведаў Святое Пісанне. Ён быў настолькі

**Абодва апосталы былі сузаснавальнікамі хрысціянскай гміны ў Рыме, абодва ў гэтым горадзе аддалі сваё жыццё для Хрыста (каля 67 года), а таксама ў Рыме знаходзяцца іх рэлiквіі і базілікі-санктуарыі ў іх гонар.**

ад яго выводзіцца тое, што хрысціянская традыцыя называе апостальскай пераемнасцю.

### ЕЗУС ЗВЯРНУЎСЯ ДА ЯГО АСАБІСТА

Шлях Паўла быў іншым. Ён быў адукаваным фарысеем, перакананы ў каштоўнасці старога Закона, што ненавідзеў вучняў Езуса. Менавіта Саўл узначаліў забіццё камянямі першага хрысціянскага мучаніка – Стэфана.

Аднак у яго жыцці здарылася тое, чаго ніколі не змог бы запланаваць для сябе. Па дарозе ў Дамаск ён атрымаў прасвятленне ад Бога. Езус звярнуўся да яго асабіста. Саўл страціў зрок. Гэта сімвалічная падзея, таму што раней ён фізічна мог бачыць, але не мог распазнаць Езуса як адзінага Збаўцу. Толькі тады паверыў, ахрысціўся і атрымаў дар Святога Духа.

Спачатку Паўлу было нялёгка, бо хрысціянская супольнасць не хацела паверыць, што ён навярнуўся. Толькі праз некалькі гадоў, калі паказаў, што навярханне не было часовым і павярхоўным, яго прынялі старэйшыны Касцёла. Тады Павел сустрэўся з Пятром у Ерусаліме і быў пасланы ім. Ён прачытаў сваё пакліканне як місіянера язычнікаў, таму шмат падарожнічаў і пісаў лісты супольнасцям, якія заснаваў. Быў зняволены ў Іерусаліме габрэямі, якія не прызнавалі Езуса сваім Збаўцам. Перададзены ўладам Рымскай імперыі, ён загінуў мучаніцкай смерцю шляхам адсячэння галавы.

### УЗРАСТАЦЬ У ВЕРЫ

Можна заўважыць, што жыцці Пятра і Паўла дапаўняюць адно аднаго, падобна як у чалавека два лёгкія, якія дазваляюць паўнавартасна дыхаць. І менавіта ў іх мы можам сёння шмат чаму навучыцца.

**Урачыстасць святых апосталаў Пятра і Паўла адзначаем 29 чэрвеня.**

Пётр паказвае нам, што вера – гэта шлях паступовага росту. Езус прыходзіць у наша штодзённае жыццё, у штодзённую працу і кліча стаць Яго вучнямі. Калі я паверу, калі прызнаю, што Езус сапраўды з'яўляецца Сынам Божым і маім Збаўцам, тады мае адносіны ў сям'і, на працы і, найперш, мае адносіны з Богам пераменяцца. Я раблю тое ж самае, але па-іншаму. Я больш не проста рыбак, службовец, менеджэр, працаўнік ці працадаўца, але чалавек Божы. Пётр вучыць нас яшчэ аднаму: калі я ўпаду, заўсёды ёсць магчымасць вярнуцца. Бог мяне не выкрэслівае, калі толькі я сам сябе не выкраслю.

### УСВЯДОМІЦЬ УВАСКРОСЛАГА ЕЗУСА

У сваю чаргу Павел вучыць нас, што можна быць правільна рэлігійным чалавекам, які клапоціцца аб чысціні веры, але пры гэтым згубіць любоў Бога і Езуса. Да свайго навяртання Павел жыў як тыповы фарысей – уласнымі намаганнямі хацеў заслужыць збаўленне, безумоўнае і бясплатнае. Яму было цяжка прызнаць, што Бог збаўляе бясплатна. Аднак пасля навяртання ён зразумеў, што плёнам збаўлення з'яўляюцца справы любові і міласэрнасці. Ён таксама паказвае важнасць ролі Святога Духа, які адкрывае нам вочы, каб усвядоміць прысутнасць уваскрослага Езуса ў нашым жыцці.

Гледзячы на прыклад і сведчанне жыцця гэтых двух вучняў Езуса, будзем маліцца аб жывой веры для нас і руплівасці ў дзяленні ёю з іншымі.

# КРЫЗІС ПАКЛІКАННЯЎ: РАЗВАЖАЮЧЫ І АНАЛІЗУЮЧЫ

працяг са с. 1

**Аб праблематыцы колькасці пакліканняў у Беларусі і свеце, прычынах крызісу пакліканняў і магчымых шляхах змены сітуацыі мы пагаварылі з а. Аляксандрам Жарнасекам MIC, прапаведнікам і рэкалекцыяністам з ордэна айцоў марыянаў.**

*Размаўляла Кацярына Паўлоўская*


catholicnews.by

***– Тэндэнцыя малой лічбы пакліканняў датычыць усяго свету, і мы ў яе ўпісваемся? Ці ў Беларусі сітуацыя нечым адрозніваецца?***

– Ці адрозніваецца ад сусветнай? Думаю, што не. Толькі на сусветную трэба глядзець у залежнасці ад кантынента. Адна сітуацыя будзе ў Азіі, у Афрыцы, зусім іншая ў Лацінскай Амерыцы і ў Паўночнай. Напрыклад, у Азіі (хаця б у той жа Індыі, дзе ёсць хрысціянскія правінцыі, альбо ў Філіпінах, у Інданэзіі – там, дзе хрысціянскія астравы) праблем з пакліканнямі няма. Там якраз-такі абмежаваныя месцы ў семінарыях і не ўсіх прымаюць, а многія асобы з Азіі вучацца ў еўрапейскіх семінарыях.

Афрыка – гэта зусім іншая тэма. Там пакліканняў таксама шмат, але ёсць свая спецыфіка, цяжэйшая. Ведаю, што ў Паўночнай Амерыцы ў наш ордэн даволі вялікі працэнт людзей прыходзіць ва ўзросце каля 30-40 гадоў, то-бок, існуе ўздым у такіх межах.

На кожным кантыненце свае нюансы, а ярка выражаны крызіс пакліканняў адназначна закрануў Еўропу. Вядома, што еўрапейскія дзяржавы розныя і ў свой час крызіс не абмінуў нават такія каталіцкія краіны, як Ірландыя, Партугалія, дзе заўсёды было поўна пакліканняў. Тая ж Ірландыя вельмі шмат місіянераў давала ў свой час, а зараз семінарыі пустуюць. У гэтым плане і Польшча не стала выключэннем. І выглядае на тое, што Беларусь даганяе. Мы ідзём па тых самых тэндэнцыях.

Якая прычына гэтаму? Людзі цэлыя кніжкі пішуць пра крызіс у Касцёле, пра крызіс пакліканняў, і даследуюць, і аналізуюць. На маю думку, ёсць, як мінімум, дзве прычыны. І першая з іх – крызіс унутры Касцёла: крызіс духавенства, самі х структур Касцёла. Вельмі многія святары перажываюць уласны крызіс. Час ад часу чуваць гісторыі пра адыход са святарства.

Другая прычына, я б сказаў, – гэта праблема чалавечай цывілізацыі. Еўрапейская цывілізацыя матэрыяльна развітая, матэрыяльна забяспечаная, плюс глабалізацыя, плюс інтэрнэт, плюс гэтая свецкасць, якая таксама ідзе ў сувязі з глабалізацыяй і з матэрыяльным дастаткам. Гэта паўплывала на Касцёл і на пакліканні таксама. Такое маё асабістае меркаванне.

***– Выходзіць, што чалавек, насычаны матэрыяльнымі рэчамі, не адчувае патрэбы ў духоўным?***

– Тут, напэўна, шмат фактараў і ўсё ўзаемазвязана. Поўнасцю не бяруся адказаць, у чым сутнасць глабалізацыі. Філосафы тут шмат чаго маглі б заўважыць. Праблему глабалізацыі я бачу ў тым, што раней людзі жылі ў сваім невялічкім раёне, вёсцы, маленькім гарадку ці ў квартале нейкім, дзе ведалі адзін аднаго. Яны мелі свядомасць "вёскі", вобразна кажучы, і мелі сваю культуру, якая іх выхоўвала. І калі культура была хрысціянскай, зразумела, якім было выхаванне. Глабалізацыя ж – гэта калі людзі выехалі ў вялікі свет і ён стаў "глабальнай вёскай".

Яркі прыклад гэтай з'явы – каталіцкая моладзь, якая з Гродзеншчыны з'язджае ў Мінск. Набожнасць развейваецца ў адзін момант. Маладыя людзі трапляюць у вялікую прастору, пазнаюць грэх, якога раней не ведалі, плюс інтэрнэт дапамагае.

Гэта крызіс і агульначалавечых вартасцей, і, у выніку, сям'і. Працэнт разводаў агромны. Людзям усё цяжэй і цяжэй проста стварыць сям'ю. А святары ж з неба не падаюць, яны з народу, з сямей паўстаюць.

***– У якім кірунку, на Вашу думку, трэба рухацца беларускаму Касцёлу ў кантэксце такіх выклікаў?***

– Я асабіста бачу, што гэты працэс глабалізацыі, свецкасці, лаіцызацыі закрануў усю Еўропу. У нейкім сэнсе магу правесці паралель з сітуацыяй, калі габрэі па прычыне вайны (у Старым Запавеце чытаем) траплялі на язычніцкія тэрыторыі. Жывучы сярод язычнікаў, яны не былі артадоксамі. Тая самая знакамітая Самарыя, ці Вавілон, ці Рым – там мясцовы свет паўплываў на габрэяў. Думаю, нешта падобнае адбываецца з традыцыйнымі каталіцкімі дзяржавамі: Польшчай, Славакіяй, Літвой, некалі каталіцкай. Па прычыне адкрытых межаў, паездак, працы, інтэрнэта і г. д. туды ўвайшла лаіцызацыя, свецкасць. Думаю, і мы не выключэнне ў гэтым плане. З аднаго боку, мы знаходзімся пад уплывам еўрапейскай лаіцызацыі, з другога – і дух камунізму ёсць, таму яшчэ цяжэй можа быць.

Як супрацьстаяць гэтай глабалізацыі ў шырокім значэнні – агромная праблематыка, вялікае пытанне не толькі для Касцёла, але для ўсяго чалавецтва, і многія людзі задаюць гэтае пытанне. Як захаваць каштоўнасці, этычныя, маральныя, не паддавацца гучнаму голасу зла, скажам так. Гэта пытанне і да веруючых, і проста да людзей, якія жывуць нейкімі каштоўнасцямі. Таму думаю, што адзін кірунак – як увогуле супрацьстаяць негатыўным уплывам глабалізацыі.

Другі – рэформа касцёльных структур. Тое, што мы напэўна можам зрабіць. Як рэфармаваць і ў якім кірунку – цяжка сказаць. Я асабіста гляджу ў напрамку Францыі, якая перажыла вялізны крызіс і якая ўсё-такі прайшла сур'ёзную рэформу часоў II Ватыканскага сабору, калі маса людзей адышла ад Касцёла. У Францыі зразумелі, што яны не могуць утрымаць гэтых людзей, і тады Касцёл перажыў рэформу, у тых яго частках, дзе іерархі на гэта адважыліся.

З маіх колішніх размоў з прадстаўнікамі французскага Касцёла і са святарамі выснова такая, што патрэбна была адвага іерархаў, каб зрабіць рэформу, не баяцца, што губляюцца такія павярхоўна-рэлігійныя людзі. Прыклад французскага Касцёла паказвае, што там, дзе рэформа адбылася, семінарыі мелі і маюць пакліканні. А там, дзе адвагі не было – семінарыі пустыя.

Між іншым, рух свецкіх у гэтай краіне вельмі развіты, поўна ўсялякіх супольнасцей: і харызматычных, і артадаксальных, і неакатэхуменальных. Думаю, у Францыі, дзе жывыя супольнасці рознага тыпу, ёсць і пакліканні.

***– Тэма малітвы ў дадзеным кантэксце ўжо збітая. Як казаць пра яе, абмяркоўваючы праблематыку пакліканняў?***

– З аднаго боку, Хрыстос кажа: "Прасіце гаспадара жніва, каб паслаў работнікаў на жніво сваё". Тут якраз ідзе размова пра авечак. Гэта цікавы момант у Евангеллі, дзе Хрыстос кажа, што авечкі павінны ўсведамляць, што ім патрэбны пастыры. То-бок, калі ў авечак не будзе такой свядомасці, яны і маліцца не будуць, і прасіць не будуць. Таму, як бы банальна гэта не гучала, малітва трэба.

З другога боку, канешне ж, нельга ўсю гэтую справу спіхнуць на тэму малітвы. Думаю, што далёка не ўсё тут вырашаецца малітвай. Гэта пытанне асабістых адносін з Госпадам. А таксама таго, што святары – гэта мужчыны, якія будуць жыць у цэлібаце. Давайце ўвогуле мужчын палічым: колькі іх у Касцёле ёсць і якія яны? Бедныя дзяўчаты не ведаюць, як выйсці замуж, як знайсці, каб і "мужык" быў, і адэкватны веруючы католік. А святароў яшчэ цяжэй адшукаць.

***– Айцец Аляксандр, калі падрабязней сказаць пра рэформу структур Касцёла, то ў які бок іх рэфармаваць і ці адыгрывае тут нейкую ролю такі падыход, калі святарам цалуюць рукі, што можа нават шкодзіць ім?***

– Цяжка сказаць, як рэфармаваць. Мая асабістая пазіцыя наконт цалавання рук – што гэта пэўная прыгожая, сімвалічная традыцыя, і логіка ў гэтым ёсць. Разам з тым, я не прыхільнік гэтага. Не памятаю, каб апосталы Хрысту цалавалі рукі.

Ёсць такая праблема клерыкалізму, што святары знаходзяцца на сваёй хвалі, а людзі – на сваёй. Часта святары не чуюць, чым людзі жывуць, не ведаюць, як яны зарабляюць грошы, не разумеюць, як гэта – "выжываць", капейкі лічыць. Многія не ведаюць, якія крызісы перажываюць сем'і. Святарская навука ідзе вышэй галоў, не кранаецца людзей.

Еўропа таксама праз гэта праходзіла. Якраз-такі ў II Ватыканскага сабору была тэма рухаў і супольнасцей, актывізацыі свецкіх людзей. У супольнасцях вернікі або знаходзіліся разам са святарамі, або ўзначальвалі іх. І праз гэтыя групы духавенства больш пазнавала, чым жывуць людзі. А стоячы за амбонам і гледзячы на тых, хто сядзіць у лаўцы, не многа пазнаеш.

***– Выходзіць, можна сказаць, што рэформа структур Касцёла альбо праца над пакліканнямі можа адбывацца праз далейшую фармацыю святароў, каб яны таксама не адчувалі сябе самотнымі, каб не адыходзілі.***

– Рэформа, як правіла, пачынаецца ў чалавечым жыцці, калі няма ніякага выхаду. Чалавек пачынае думаць, што рабіць, калі ўжо недзе на дно сядае. Пакуль варыянты ёсць, пакуль ёсць нейкія людзі, пакуль не прыцісне, рэформ сур'ёзных не пачынаецца. Гэта выключэнне, калі трошкі раней прадугледзелі і падумалі. Назіраючы за жыццём, больш-менш так выглядае.

Касцёл у Беларусі разнастайны. Напрыклад, ва Усходняй ці Цэнтральнай Беларусі ёсць шмат парафій, дзе зусім мала людзей, а ксёндз усё роўна ёсць альбо прыязджае туды. Тут таксама патрэбна адвага – нейкая адвага біскупаў, каб, напрыклад, парафіі закрываць. Тут святар для дзесяці чалавек ці для дваццаці, а можа, ён што-небудзь дасць там, дзе трохі болей людзей? Ізноў жа, з такой праблемай сутыкнулася Еўропа. У той жа Францыі ёсць нармальна парафій, дзе людзей поўна, а Імша нават у нядзелю не адбудзецца, толькі ў суботу вечарам, бо тэхнічна няма магчымасцей. Існуе місіянерскі падыход, што ў некаторых месцах раз на месяц праводзіцца Імша, і выбару няма. Канешне, Эўхарыстыя заўсёды павінна быць. Ёсць варыянты інтэрнэту, тэлебачання і г. д. Гэта вялікая тэма.


catholic.by

Навучэнцы Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі

АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

## Прызначаны склад Камітэта па інвестыцыях

Камітэт па інвестыцыях, стварэнне якога прадугледжвае 227 артыкул новай Апостальскай канстытуцыі Praedicate Evangelium, узначаліць кардынал Кэвін Фарэл, прэфект Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця. Як паведаміла Зала Друку Святога Пасаду, Пантыфік прызначыў поўны склад новага Камітэта.

Камітэт па інвестыцыях уваходзіць у эканамічны блок Рымскай курыі. Туды ж адносяцца таксама Рада па эканамічных пытаннях, Сакратарыят па эканамічных пытаннях, Адміністрацыя маёмасці Апостальскай Сталіцы, Упраўленне генеральнага аўдытара і Камісія па справах сакрэтнага характару.

## Моладзь заахвочваюць да дыскусіі пра будучыню Еўропы

Камісія Біскупскіх Канферэнцый Еўрапейскай Супольнасці (COMECE) і Фонд імя Конрада Адэнаўэра правялі другую анлайн-сустрэчу маладых католікаў на тэму "Дзяліцца марамі пра будучыню Еўропы".

У ёй прынялі ўдзел каля 100 маладых дэлегатаў ад епіскапатаў краін Еўрапейскага Саюза. Праграма сесіі ўключала ў сябе дыскусію з Аліверам Варгеі, венгерскім палітыкам, Еўракамісарам па еўрапейскай палітыцы добрасуседства і перамовах аб пашырэнні.

Анлайн-сустрэча стала ініцыятывай у рамках Года моладзі ў ЕС, а таксама часткай працэсу, які рэалізоўваўся ў кантэксце Канферэнцыі аб будучыні Еўропы: падчас яе грамадзяне Еўрасаюза мелі магчымасць дзяліцца ідэямі аб будучыні кантынента, сустракацца і праводзіць дыскусіі з прадстаўнікамі розных сектараў ЕС.

## Рэформа Рымскай курыі пад знакам камуніі

Біскуп Хуан Ігнасіа Арыета, сакратар Дыкастэрыі па заканадаўчых тэкстах, лічыць, што новая Апостальская канстытуцыя Praedicate Evangelium падкрэслівае канструктыўную волю Касцёла чытаць знакі часу і ўтрымлівае канцэпцыю Рымскай курыі як установы на службе Папе, якая дапамагае кіраваць паўсюдным Касцёлам.

Прынцыпы арганізацыі Курыі ляжаць у трох аспектах, якія можна прачытаць у ключы камуніі. Першым з іх з'яўляецца служэнне Пантыфіку. Другім – служэнне епіскапату, Касцёлу і пастырам Паўсюднага Касцёла, што адбываецца ў лучнасці з імі, у дыялогу, у слуханні і ў сумесным вырашэнні праблем. Трэцім – еднасць паміж тымі, хто працуе ў самой Курыі: гаворка ідзе пра сумесную працу, слуханне адзін аднаго, супольнае абмеркаванне і выкананне пастаўленых задач найлепшым чынам.

## Малітоўныя інтэнцыі на ліпень

### паўсюдная

Молімся за пажылых людзей, якія з'яўляюцца каранямі і памяццю нацый, каб іх вопыт і мудрасць дапамаглі самым маладым з надзеяй і адказнасцю глядзець у будучыню.

### дыяцэзіяльная

Молімся за здароўе душы і цела для тых, хто так ці інакш пацярпеў ад пандэміі каранавіруса.

# ЮБІЛЕЙ СТАРЭЙШАГА САЛЕЗІЯНІНА Ў БЕЛАРУСІ



У. Зарэцкі ASC

Кс. Здзіслаў Вэдэр пэўны час быў духоўным айцом клерыкаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі

працяг са с. 1

*Прэс-служба Гродзенскай дыяцэзіі*

Павіншаваць з круглымі гадавінамі самага старэйшага салезіяніна ў Беларусі прыбылі шматлікія госці, сярод якіх былі арцыбіскуп-эмерыт Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, біскуп Юрый Касабуцкі, сабраты салезіяне, прадстаўнікі дзяржаўных улад.

Памаліцца за ксяндза Здзіслава сабраліся таксама сёстры салезіянкі, салезіяне супрацоўнікі, дзеці і моладзь, дыяцэзіяльныя святары і сёстры з іншых манаскіх супольнасцей.

Цэлебрацыю св. Імшы ўзначаліў арцыбіскуп Кандрусевіч. Ва ўступным слове заслужаны іерарх падзякаваў ксяндзу Вэдэру за вялікі ўнёсак у адраджэнне Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, адзначыўшы, што палову свайго святарскага шляху ён прысвяціў менавіта Касцёлу на Усходзе, будучы інспектарам для салезіян з краін былога СССР.

Звяртаючыся да ўсіх гасцей і дзякуючы за прысутнасць, добрыя словы і малітву ў яго інтэнцыі, юбіляр адзначыў, што, сказаўшы Богу „так", ён ніводнага разу не пашкадаваў.

Пасля св. Імшы ў араторыі, які дзейнічае пры парафіі, адбыўся святочны канцэрт і ўрачысты абед.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**МЕКСІКА.** "Пан падарыў нам 7 дыяканаў і 70 святароў", – напісаў кардынал Францыска Роблес Артэга, біскуп архідыяцэзіі Гвадалахара, які ўдзяліў пасвячэнне. Гэтая падзея была прызнана гістарычнымі святарскімі пасвячэннямі. Як паведамілі ў архідыяцэзіі, урачыстасці доўжыліся тры дні. "Я ўзначаліў эўхарыстычную літургію ў санктуарыі Мексіканскіх Мучанікаў і ў межах біскупскай паслугі высвяціў новых святароў, намасціўшы іх далоні і ўсклаўшы рукі на кожнага з іх", – адзначыў іерарх.

**КАЗАХСТАН.** "Ніхто не мае права адвольна пазбаўляць жыцця чалавека. Смяротнае пакаранне забараняецца", – так гучыць артыкул 15, параграф 2 новай Канстытуцыі Рэспублікі Казахстан, ухвалены на агульнанацыянальным рэферэндуме 5 чэрвеня. Такім чынам, смяротнае пакаранне адменена ў краіне на самым высокім – канстытуцыйным – узроўні. Забарону з радасцю ўспрынялі ў каталіцкай супольнасці св. Эгідзія, якая на працягу 20-ці гадоў суправаджала казахстанскі ўрад на шляху да ліквідацыі параграфа аб вышэйшай меры пакарання.

**ІЗРАІЛЬ.** Аль-Магтас на ўсходнім беразе Іардана, які ўшаноўваецца як месца хросту Езуса, у маі 2022 года наведала больш за 15 тысяч чалавек. Гэта самыя высокія лічбы пасля яго адкрыцця для турызму 20 гадоў таму. Данымі падзяліўся іарданска-палестынскі хрысціянскі інтэрнэт-часопіс Milh il-Ard (Соль зямлі) са спасылкай на генеральнага дырэктара гэтага месца Рустома Мхджыяна. З пачатку 2022 года да канца мая Аль-Магтас наведалі 52 тысячы чалавек. На працягу папярэдняга года з прычыны пандэміі каранавіруса было ўсяго 50 тысяч наведвальнікаў. Больш людзей пачало ездзіць з Францыі і Грэцыі, менш – з Расіі.

**ПОЛЬШЧА.** Супольнасць "Моцныя ў Духу" рэгулярна публікуе на сваім канале YouTube адукацыйныя відэаролікі, арыентаваныя на самых маленькіх гледачоў. Госцем аднаго з эпізодаў стаў а. Ян Гломба SJ. Езуіт распавядае дзецям пра Сэрца Езуса і сустрэчу "Сэрца маладых". Цыкл фільмаў, падрыхтаваных "Моцнымі ў Духу", называецца "Цудоўнае Каралеўства" і выходзіць кожную нядзелю. "Сустрэча «Сэрца маладых» звязана з юбілеем. Сто гадоў таму мы даверылі нашу краіну абароне Пана Езуса, а сёння таксама хочам наблізіцца да Яго, каб Ён блаславіў нас", – кажа а. Гломба ў эпізодзе "Цудоўнага Каралеўства" пад назвай "Незвычайнае сэрца". Падчас трансляцыі хапіла месца для натхняльнай гісторыі, песень і задання.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ЯБЛАНОВА. СВЯТЫНЯ НАД НЁМАНАМ

*Андрэй Вашкевіч*



А. Вашкевіч

Рэшткі капліцы ў Яблановe

Сёння населенага пункта Ябланова няма на карце Гродзеншчыны. Маёнтак Ябланова і старая капліца каля яго засталіся толькі на старых даваенных планах. Ад капліцы, праўда, засталіся яшчэ і сцены. Яна пабудавана ў тым жа стылі, што і нядаўна аднолены касцёл у Воўчыне Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Капліца мае цалкам такі ж цэнтрычны квадратны план і будаўнічы аб'ём, тую ж яруснасць ваконных праёмаў на аднолькавых фасадах, тую ж таўшчыню сцен і такія самыя прыёмы цаглянай кладкі. Асабліва цікавы прыём дэкарыравання тынкоўкі фасадаў: плоскасці паміж пілястрамі запоўнены маленькімі ямачкамі-кропачкамі, што стварае цікавы эфект вылучэння пілястраў пры іх адносна невялікай таўшчыні. Дах некалі меў прыгожы ліхтар з каронай. Унутры ў чатырох кутах былі ложы з балконамі на двух паверхах.

Маёнтак у Ябланове належаў да ваўпянскіх уладанняў, значыць, да Сапегаў. Караліна Тэрэза з Радзівілаў, удава Казіміра Караля Сапегі, выйшла замуж за Юзафа Аляксандра Ябланоўскага ў 1740 годзе і перадала яму свае вялікія ўладанні – Ябланова і Воўпу. Менавіта ён быў фундатарам капліцы, муры якой захаваліся да нашых дзён.

Яблаunion Ябланоўскі – дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, гісторык, мецэнат. Атрымаў хатнюю адукацыю, падарожнічаў па Еўропе. Жаніцьба на Караліне Сапезе дала яму магчымасць набыць маёнтак і дзяржаўныя пасады – стольніка ВКЛ і навагрудскага ваяводы. Каб не падпісваць умовы першага падзелу Рэчы Паспалітай, ён паехаў у Лейпцыг і стварыў там Навуковае таварыства Ябланоўскіх (лац. Societas Jablonoviana). Быў аўтарам прац па старажытнай гісторыі славян і Польшчы: "Сармацкая імперыя, сёння Польскае каралеўства", "Карты Польшчы". Займаўся астраноміяй, матэматыкай, эканомікай.

Пасля смерці жонкі Караліны Ябланоўскі ажаніўся паўторна з выхаванкай Браніцкіх Францішкай Вікторыяй, князёўнай Варанецкай, беднай, але вельмі прыгожай. Шлюб адбыўся 5 жніўня 1766 года ў Ябланове над Нёманам. Адбылося гэта ў згаданай капліцы, бо касцёла ў Ябланове не было.

Пасля Ябланоўскага маёнткам валодалі Варанецкія, Солтаны, Эйсманты. А збудаваная першым гаспадаром капліца служыла каталікам да 1863 года, калі была зачынена па загадзе расійскіх улад. Яе планавалі перарабіць у царкву, аднак план так і не быў рэалізаваны. Са святыні толькі выдалілі алтары і знялі жалезны крыж. Затым капліца пераходзіла шляхам куплі з рук у рукі, на працягу доўгага часу служыла складам сена, пакуль за некалькі гадоў да І Сусветнай вайны з-за маланкі не быў спалены дах і столь. Потым гродзенскі праваслаўны архірэй асігнаваў на яе адбудову 2 000 рублёў, дзякуючы чаму быў пабудаваны новы дах. Далейшы рамонт спыніла вайна. Калі завіруха вайны змяла навакольныя вёскі, многія сем'і жылі ў капліцы.

Пасля І Сусветнай вайны капліцу ніхто ўжо не аднаўляў. Святыня, якая, паводле аднаго са сведкаў, "магла б быць упрыгожаннем галоўных вуліц Парыжа", так ніколі і не была аднаўлена.

Сёння Ябланова – адно з самых маляўнічых месцаў Гродзеншчыны. Калі павярнуцца да руінаў капліцы спіною, то пабачыш старыцу Нёмана і пералескі за ёю. А са святыні быццам сярод цішыні даносяцца словы малітвы.

# ПРАКТЫКУЮЧЫ ПСІХОЛАГ: “ТРЭБА АДКАЗНА СТАВІЦЦА ДА АДПАЧЫНКУ”

працяг са с. 1

Размаўляў Арцём Ткачук

***– Хацелася б паразмаўляць пра здаровы баланс працы і адпачынку. Ці ёсць нейкія галоўныя прыкметы таго, што чалавеку патрэбен адпачынак?***

– Перш за ўсё, гэта парушэнне сну: калі звычайнай колькасці сну робіцца недастаткова, не атрымліваецца адпачыць за гэты час. Таксама калі сон становіцца нервовым: чалавек не можа заснуць, прачынаецца ноччу. Гэта з найбольш відавочнага.

Наступным будзе агульнае пачуццё стомленасці ад працы, адносін з людзьмі, ад самога сябе. А таксама адсутнасць задавальнення ад жыцця – пачуццё, што яно не дае радасці, поўні. Гэта такія тры агульныя рэчы.

***– А колькі чалавеку трэба адпачываць, каб нармальна сябе адчуваць? Каб не выгараць на працы ці ў справах, якія робяцца?***

– Калі лічыць у гадзінах, то гэтае пытанне лепш задаць фізіёлагам. Ведаю, што неабходна не менш за 8 гадзін сну, прычым жанчынам трэба спаць больш, чым мужчынам. Відавочнай адзнакай таго, што чалавек добра адпачывае, з’яўляецца дастатковасць энергіі для працы, заняткаў з дзецьмі, добрых адносін з мужам ці жонкай, сябрамі. Калі не хапае энергіі, гэта ўжо адзнака стомленасці, а нават, часам, і выгарання. Хоць выгаранне – крайняя ступень стомленасці.

***– З пункту гледжання псіхалогіі, як зразумець, які адпачынак правільны, а які няправільны? Як ацаніць, што я добра адпачываю?***

– Тут ёсць розныя погляды. Некаторыя кажуць, што найлепшы адпачынак – змена віду дзейнасці. Калі нехта працуе інтэлектуальна, то для яго фізічная праца будзе добрым адпачынкам, і наадварот. Гэта такі просты накірунак, які патрэбен, каб чалавек мог працаваць і жыць увогуле. Калі ёсць выключны ўзровень змучанасці, то змены дзейнасці будзе недастаткова, бо замена адных дзеянняў іншымі – гэта таксама ўжо пэўнае “сціранне шарніраў”. У падобнай сітуацыі любая дзейнасць будзе дадаваць яшчэ больш стомленасці. Таму ў такім выпадку трэба, напрыклад, ляжаць, глядзець у неба, шпацыраваць у лесе.

Усё залежыць ад узроўню стомленасці чалавека. Беларусы ўвогуле прызвычаіліся даводзіць сябе да крайняга стану.

***– Скажыце, ці ёсць нейкая мяжа ляноты і рэальнай патрэбы адпачыць?***

– Калі такое пытанне ўвогуле ўзнікае, то трэба адпачыць.

Паняцця “лянота” ў псіхалогіі няма. Лянота, напрыклад, можа быць прыкметай дэпрэсіі. Або бывае, што бацькі блытаюць яе са стомленасцю дзяцей. Часта дзіцё фізічна не можа штосьці зрабіць, бо перапады гармонаў ствараюць пачуццё вялікай знямогі. Лянота – гэта нежаданне дзейнічаць, а стомленасць – немагчымасць. Нежаданне і немагчымасць – розныя рэчы.



***– Дзе б Вы правялі мяжу здаровага і нездаровага працагалізму?***

– Зноў жа, у псіхалогіі няма такой розніцы. Любы “-ізм” з’яўляецца пабегам ад сябе сапраўднага, каб нешта забыць; устаноўкай накшталт “не буду пра гэта думаць, буду піць алкаголь ці шмат працаваць”. Любы “-ізм”, у тым ліку працагалізм, – гэта заўсёды залежнасць, таму да яго трэба ставіцца як да залежнасці.

Навошта ўвогуле патрэбна праца? Каб годна жыць. Гэтая мера годнага жыцця, магчымасцей для сябе і ўласных дзяцей у кожнага свая. А “-ізм” – уцёкі кудысьці, дзе чалавек несвабодны.

***– А што з людзьмі, апантанымі ідэямі, праектамі, якія з’яўляюцца аб’ектыўна добрымі справамі? У прынцыпе, такіх шмат у Касцёле. Дзе мяжа нармальнай уцягнутасці ў дзейнасць у такім выпадку?***

– Гэтым разам адкажу па-хрысціянску. Тут трэба памятаць словы Езуса: “Любі бліжняга, як самога сябе”. Калі з-за ўзгаданай апантанасці я забыўся пра сябе, то гэта ўжо не хрысціянскі падыход. Таму што я не магу даць тое, чаго не маю, не магу раздаць усё і выгараць. Мусіць быць баланс паміж захаваннем сябе і клопатам пра іншага. Гэта нармальная мера такой дзейнасці.

Я добра разумею, што такое добрая ідэя і апантанасць справай, як гэта захоплівае і нясе чалавека. У такіх выпадках складана захаваць неабходны баланс. Але без яго людзі ўрэшце рэшт сыходзяць з дабрачыннасці, расчароўваюцца ў ідэях. Тут ёсць вялікая адказнасць на кіраўніках, якія павінны даносіць важнасць захавання балансу, каб не выгараць і захаваць веру.

***– То-бок, здаровы хрысціянін, апантаны нейкай ідэяй, – гэта, перш за ўсё, марафонец?***

– Так. Гэта вельмі добры вобраз. Той, хто клапоціцца, каб было дастаткова вады і сіл. Ёсць адрэзкі, дзе ён адпачывае і дзе крыху дадае.

***– Хачу задаць рызыкоўнае пытанне. Калі чалавек не сочыць за сваім адпачынкам, ці трэба, на Вашу думку, з гэтага спавядацца?***

– Канешне, бо гэта супярэчыць пятай запаведзі – “не забівай”. Такім чынам чалавек забівае сваё здароўе, духоўнае жыццё і сябе.

Мы так створаны, што патрабуем адпачынку. І Бог паклапаціўся пра гэта, наказваючы нам адпачываць. Ведаючы, што чалавек – гэта істота, якая будзе хістацца паміж усім і нічым: максімальна даць і нічога не даць. Гэтакая поўная адсутнасць балансу.

***– Існуе меркаванне, што беларусы – працаголікі. Пагодзіцеся?***

– У гэтым шмат праўды. Фактычна беларусы працаголікі. Аднак гэта вынікае не з захопленасці працай, а вельмі часта з боязі не страты ці нейкага пакарання, з пэўнай сістэмы страхаў. Калі б чалавек сам мог кіраваць сваім часам, цяжкасцю працы і яе размеркаваннем, то многія беларусы мелі б з гэтым клопат, таму што яны прызвычаіліся, што хтосьці вырашае гэта за іх.

Яшчэ з іншага боку нас выхоўваюць да прыстойнасці: што трэба сумленна працаваць, усё рабіць найлепшым чынам. Гэта добрая характарыстыка, але яна таксама забірае шмат энергіі, бо гэта вельмі суб’ектыўная рэч. Тое, што для мяне перфекцыйна, для іншага можа так не выглядаць. Таму тут важная залатая сярэдзіна – не перфекцыйна, а дастаткова добра.

***– Падаецца, што маладыя пакаленні беларусаў ужо лепш ставяцца да адпачынку. Так, хіба, большасць з нас прайшлі праз тое, што ў дзяцінстве ездзілі садзіць ці капаць бульбу, убіраць буракі, саджаць агароды. Сёння гэта ўжо рэдкасць. Маладыя цэняць адпачынак.***

– Больш якасна адпачываюць.

***– Так.***

– Пагаджуся з Вамі. Гэтыя новыя пакаленні выхоўвалі людзі, якія разумелі каштоўнасць адпачынку. Маладзёны ўжо лепш адчуваюць свае патрэбы: напрыклад, што яны стомлены, а не ляную́цца. Дзядулі ці бацькі не ўмелі гэтага адчуваць, яны раслі з устаноўкай “павінен”.

Таму гэта ўжо здаровы баланс паміж любоўю да сябе і магчымасцю даваць любоў іншым. У такім сэнсе маладое пакаленне больш здаровае. Бабулі і дзядулі, напэўна, называюць такое стаўленне эгаізмам, але ў псіхалогіі гэта больш падобна на здароўе.

***– Часта беларусы вымушаны шмат эканоміць, бо трэба збіраць на жыллё, машыну, рамонт, іншыя глабальныя сямейныя рэчы. Гэта няпэдка адбываецца коштам адпачынку: мы не едзем на мора ці кудысьці яшчэ, бо “трэба памяняць машыну”. Як да гэтага ставіцца?***

– Гэта можна разглядаць як пэўную сямейную аскезу, бо неабходна закрыць першасныя патрэбы. Тут няма нічога дрэннага, проста адпачынак трэба больш асэнсавана арганізоўваць. Аскеза азначае, што не будзе мора, але ўвогуле адпачынак будзе. Трэба проста добра падумаць, як яго зладзіць.

***– Значыць, справа зусім не ў грошах, а ва ўнутранай матывацыі?***

– Так. Неабходна адказна ставіцца не толькі да нейкай матэрыяльнай патрэбы, але і да адпачынку. Варта ладзіць яго згодна з тымі магчымасцямі, якія ёсць у сям’і. Можа быць выхад у парк, сямейны пікнік, чытанкі. Ёсць шмат варыянтаў. Калі гэта, канешне, аскеза, а не ўцёкі ад сямейных клопатаў.

***– А што з адпачынкам ад рэлігійных практык? Ці ёсць у Вас некалькі парад здаровага адпачынку ад рэлігіі?***

– Цяжка ўявіць, што такое адпачынак ад рэлігійнага жыцця. Рэлігія і вера – гэта адносіны з Богам, і няясна, як ад гэтага можна адпачыць. Я разумею, што такое адпачыць ад рэлігійных актыўнасцей ці іх змены. Гэта тычыцца нейкіх практык, калі важны пераход, напрыклад, у сузіранне, адарацыю ці іншае адпаведнае для майго стану. Добра падабраная для сябе практыка веры таксама можа быць адпачынкам.

Так сужэнцы часта стамляюцца хадзіць на дзіцячую Імшу. Гэтыя практыкаванні не кормяць іх дарослую духоўнасць. Можна дамовіцца, што адну нядзелю мы ідзём на дзіцячую Імшу, а другую – паасобку на дарослую.

Калі чалавек “злавіў” рэлігійную стомленасць, гэта можа быць адзнакай рэлігійнага крызісу ў цэлым. У такім выпадку важна разабрацца з духоўным кіраўніком. Разам з тым, рэлігійны крызіс можа быць вынікам псіхалагічных праблем – дэпрэсіі, напрыклад. А гэта ўжо патрабуе лячэння. Часам нават лекамі.

*Ірына Шмак – практыкуючы псіхолаг, псіхадраматэрапеўт. На працягу 10-ці гадоў была дыяцэзіяльнай дарадчыцай сямейнага жыцця Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Дзеючы практык і трэнер Еўрапейскага інстытута псіхадрамы. У мінулым уваходзіла ў Раду па справах сям’і пры ККББ.*

## ЯК ЧЫТАЦЬ НЕЗРАЗУМЕЛАЕ?



Яна Чайко

Мая першая Біблія была, хіба, такой самай, як і ў большасці маіх аднагодкаў: блакітная, з каляровымі малюнкамі на кожнай старонцы. І чытала я яе гэтак жа, як звычайныя казкі і аповесці. Да пэўнага моманту гэтай Бібліі было дастаткова, а потым з’явілася жаданне чытаць далей, даведвацца трохі больш.

Але я нічым не адрознівалася ад усіх: мне таксама была незразумела большасць з напісанага. Таму Біблія і адправілася на паліцу, дзе стаяла да першай біблейскай сустрэчы, якую зладзілі пры маёй роднай парафіі.

Тады сястра і ксёндз два разы на месяц па нядзелях збіралі моладзь на сумеснае чытанне Слова. Мы разбіралі асобныя вершы, цэлыя раздзелы, звярталіся да арыгінальных тэкстаў, каб лепш зразумець сэнс, слухалі каментары розных святароў, дзяліліся асабістымі думкамі і разуменнем прачытаннага.

На першы позірк гэта падавалася сумным і нудным. Але ўжо на першай сустрэчы было зразумела: Біблія – гэта вельмі цікава, глыбока і зусім няпроста. Да сённяшняга дня я памятаю словы сястры, што ў Бібліі яна заўсёды знаходзіць адказы на ўсе пытанні, а свой дзень пачынае з чытання Слова і з кубка кавы.

Мінаў час, змяняліся сёстры і святары, традыцыя такіх сустрэч, на жаль, не захавалася. Некалькі разоў атрымлялася застаць на парафіяльных біблейскіх сустрэчах, але я сябе няёмка адчувала сярод старэйшых асоб, таму чытанне Бібліі зноў дайшло да пачатковага пункта: цяжка чытаць, калі шмат чаго не разумееш. Падмурак, які заклалі падчас сталення, ёсць да сённяшняга дня. Я ўжо ведаю, што, каб разумець Слова, патрэбныя, у першую чаргу, каментары святароў. Другі важны пункт для мяне – гэта мова. Мне нашмат цяжэй чытаць па-руску, чым па-беларуску.

Сёння на YouTube можна знайсці велізарную колькасць відэа, дзе святары прапаноўваюць разам чытаць Біблію і разважаць над тэкстам. Ёсць шмат надрукаваных каментарыяў на розных сайтах. Таму цяпер, на мой позірк, найгалоўнейшая праблема – “я не разумею, што там напісана” – вырашана. Дастаткова толькі ўзяць Слова з паліцы і адкрыць. За першай старонкай пойдзе другая, а там і да сотай дойдзе…

# “КАБ НЕ АСАТАНІЦЦА, ЗМАГАЮЧЫСЯ З САТАНОЙ”

Ангеліна Марцішэўская

20 гадоў таму Юлія пакінула аплачвальную працу, каб несці служэнне ў супольнасці “Каштоўная пярліна” евангелізацыйнага руху “Святло-Жыццё”. Іншымі словамі, дзяўчына стала аніматарам у касцёле свв. Сымона і Алены ў Мінску, у яе выпадку – адказнай за музычнае аздабленне літургіі і разнастайных рэлігійных мерапрыемстваў. Служэнне на ніве Пана дапамагло развіць талент, і Юлія распачала ўласны праект – запіс аўтарскіх спеваў і перакладаў вядомых хрысціянскіх песень. Сёлета яна выпусціла дыск “Бог ёсць любоў”, які стаў пачаткам чарговага, вельмі важнага і актуальнага сёння служэння – суцешыць пакрыўджаных.

Гвардзейск, Хмельніцкі, Калінаўка, Вінніца, Ірпень, Буча, Барадзянка, Гастомель, Андрэеўка, Мошчун, Кіеў. Юлія праехала праз гэтыя пункты са словамі падтрымкі ад беларусаў для ўкраінцаў і са спевам на ўкраінскай мове пра Божую прысутнасць і заканчэнне канфлікту.

*“Дыск «Бог ёсць любоў» узнік праз натхненне майго сябра а. Анджэя Мадзя, які служыць у Ордэне Місіянераў Аблатаў Беззаганай Панны Марыі ў Туркменістане. Такім чынам ён хацеў адзначыць 25-годдзе місіі ў гэтай краіне. Святар шукаў грошы на згаданую справу, але не знайшоў. Калі ва Украіне пачаліся баявыя дзеянні, ён моцна перажываў, бо калісьці служыў там. Тады айцец вырашыў змяніць інтэнцыю і прысвяціць будучы дыск супакою ў свеце. Адразу знайшліся людзі, якія праспансіравалі запіс альбома ў студыі,* – распавядае Юлія. – *Калі я спявала песні з дыска ў парафіях, людзі плакалі. Адчувалася, што яны прагнуць не толькі матэрыяльнай, але і духоўнай падтрымкі. Маёй місіяй падчас паездкі было проста пабыць побач з людзьмі, дакрануцца да іх ран, запэўніць у малітве. Я веру, што нават калі чалавек мае пэўныя прадузятасці, то, уступаючы ў дыялог, ён можа іх пазбыцца. Украінцам было важна пачуць, што беларусы мірныя і не хочуць вайны”.*




Юлія ўпэўнена, што з евангелізацыяй у падобных крытычных момантах трэба быць вельмі асцярожным. Перш за ўсё, неабходна выслухаць і звычайна трываць побач з людзьмі, якія пакутуюць.

*“Заўважыла, што з большага ўкраінцы ўсе спасылаюцца на Бога. І паступова яны вяртаюцца да малітвы. Мяне вельмі ўразіла стаўленне дзетак да існуючай сітуацыі. Некаторыя з іх выказвалі спачуванне да крыўдзіцеляў і нават маліліся за Расію”,* – дзеліцца Юлія.

Жанчына сцвярджае, што менавіта малітва за навяртанне ворагаў, да якой заклікае Маці Божая, дапамагае перамагчы нянавісць у сваім сэрцы, якая з’ядае, і тым самым не ўпадобніцца да крыўдзіцеля, не стаць з ім на адну прыступку. Гэтая малітва дае моц, сталасць сэрца, ахову.

*“Паводле сведчанняў, што я пачула, украінцы моляцца аб заканчэнні ваенных дзеянняў не любым коштам, але менавіта праз уласную перамогу. Каб вораг пакаяўся. І разам з тым усе паагаджаюцца, што маліцца за непрыяцеля – гэта цяжка і патрабуе велікадушнасці. Аднак гэтай думкай і прасякнута Евангелле. Бог не абяцаў, што ўсё будзе добра. І калі мы хочам руж, зразумела, што наткнёмся на шыпы. Госпад перамог смерць, але зрабіў гэта на крыжы”,* – дадае жанчына.

Яна адзначае, што вельмі важна ведаць, хто твой вораг. Бо кожнае змаганне – гэта, перш за ўсё, змаганне не супраць плоці, але духоўная барацьба. У кожным супрацьстаянні варта прасіць аб перамозе Святога Духа. І передусім спытацца ў саміх сябе, ці маем дастаткова любові і ахвярнасці, ці патрэбна навяртанне таксама і нам. Падобнае стаўленне патрабуе вялізнай унутранай моцы.

*“І ведаеце, ва Украіне я ўбачыла гэтую моц”,* – падсумоўвае Юлія.



Юлія з візітам у Вінніцы


З малітвай аб Божай перамозе

**Супольнасць “Каштоўная пярліна” з’яўляецца міжнароднай Дыяконіяй евангелізацыі і вызвалення ў межах руху “Святло-Жыццё”. Галоўная справа руху – евангелізацыя звычайных свецкіх людзей, якія маюць сем’і, працуюць. Удзельнікі супольнасці размаўляюць з імі пра Бога, абуджаюць іх веру, запрашаюць у касцёл. Калі людзі застаюцца ў супольнасці, іх духоўна выхоўваюць праз супольнае чытанне Бібліі, малітвы, рэкалекцыі. У руху распрацавана цэлая праграма евангелізацыі, якую стварыў а. Францішак Бляхніцкі, святар, які перадусім змагаўся з камунізмам.**

**Адзін з важных напрамкаў дзейнасці супольнасці – гэта таксама “антыалкагольная праграма” пад назвай “Круцыята вызвалення чалавека”. Яшчэ ў 1950-ыя гады а. Францішак убачыў, што камуністычныя ўлады алкагалізуюць насельніцтва, каб яго зняволіць. У сваю чаргу ўдзельнікі супольнасці, вольныя ад алкаголю, падпісваюць адмысловую дэкларацыю, моляцца і посцяцца ў інтэнцыі людзей, што пакутуюць ад алкагалізму. Апошнія, ведаючы, што існуць “круцыяты”, адчуваюць большую моц і падтрымку ў змаганні з залежнасцю.**

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Ці можа святар быць дарадчыкам у сямейных справах?

працяг са с. 1
ave-maria.by

*У першую чаргу, варта памятаць, што святар – гэта асоба, заданне якой выказваць не прыватныя меркаванні, але дзяліцца з вернікамі вучэннем і досведам Касцёла (ККК, 1551–1553). Ніякая зямная арганізацыя не мае столькі назапашаных ведаў і такога вопыту, колькі Каталіцкі Касцёл за дзве тысячы гадоў нястомнага служэння збаўленню сужэнства і сям’і. Па-другое, быць святаром не прафесія, а пакліканне, як і да сям’і (ККК, 1603; Ян Павел II, Pastores dabo vobis, 41; Familiaris Consortio, 11), таму святар – гэта не халасцяк на часовай працы. Гэта асоба, якая абсалютна ўсяго сябе навечна прысвяціла нястомнаму і неабмежаванаму служэнню Богу і збаўленню людзей, кіруючыся звышнатуральнай матывацыяй. Заўважым, што жаданне кагосьці стаць святаром Касцёл не задавальвае адразу, бо спачатку правярае чалавека на яго альтруізм і звышнатуральную матываванасць. Далей арганізоўвае для такой асобы глыбокую фармацыю (выхаванне) на ўсіх узроўнях, дае грунтоўныя веды з розных сфер жыцця, вучыць чэрпаць з бяздоннай крыніцы Божага Аб’яўлення, дваццаці стагоддзяў ведаў і вопыту Касцёла, а таксама з асабістага досведу кантакту з Богам. І гэта не ўсё. У момант прыняцця святарства кандыдат прымае яго не як прызначэнне на працу, але як сакрамант. Гэта значыць, што сам Бог намашчвае і напаўняе выбранага ўсімі неабходнымі дарамі, каб ён быў здольным выконваць святарскую місію (ККК, 1564). У выніку ў асобе святара мы сустракаем не проста чалавека з тэарэтычнымі ведамі, але асобу са шчырым жаданнем служыць, скіраваную Богам і Касцёлам да рэалізацыі місіі Хрыста ў гэтым свеце, дзе фундаментальнае месца займае сям’я (Ян Павел II, Familiaris Consortio, 15).*

*Ніхто з людзей не мае настолькі глыбокага і шырокага досведу сужэнскага і сямейнага жыцця, як святар у душпастырстве. Часта за некалькі дзён калядная наведвання сем’яў святар назапашвае столькі досведу і ведаў пра сужэнствы і сем’і, колькі звычайны сем’янін не назапасіць за ўсё сваё жыццё. Святар – гэта той, да каго дзядулі, бабулі, жонкі, мужы, дзеці, унукі прыходзяць падзяліцца найбольш інтымнымі і хвалюючымі перажываннямі, пра якія ніхто ніколі ў гэтым свеце не даведаецца, не здагадаецца. Ён той, хто ведае людзей “знутры”. Гэтае пазнанне рэальнага стану рэчаў, стану кожнай душы і сям’і дае святару магчымасць не толькі рэальна бачыць, але і даваць адэкватную ацэнку рэчаіснасці, таму яго бачанне і высновы – плод не яго прыватных думак ці перажыванняў, а вынік сузірання чалавечых душ знутры, а таксама таго бачання, што зыходзіць з досведу і ведаў Хрыстовага Касцёла (ККК, 1564).*

*Урэшце, святар мае не толькі права, але і абавязак навучаць і клапаціцца аб сужэнстве і сям’і. Гэта вынікае з яго місіі: абвяшчаць Евангелле, асвячаць, умацоўваць праз святыя сакраманты і весці ўсіх да збаўлення (Мц 28, 19–20; ККК, 1565). Вопыт святара ў сямейных справах – гэта скарбніца, якая змяшчае ў сабе веды зямныя і Божыя, досвед асабістага душпастырства сем’яў, які тут і цяпер злучаны з неверагодным досведам Касцёла, распасцёртым у часе і прасторы. Гэта таксама дар малітвы, Божага благаслаўлення і ахвяраванай Імшы за тых, хто не баіцца раздзяліць са святаром радасць і боль свайго сужэнства.*

ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# ДОБРАЕ СЛОВА СВЯТАРУ

*Парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

Складаная і няпростая гэта справа – выхоўваць вернікаў духоўна здаровымі і адказнымі. Ксёндз Павел Калеснік за гэты нядоўгі час здолеў стаць для нас добрым пастырам. Ён старанна вучыць ісці па шляху, які вядзе да паяднання з Богам, настаўляе няўмелых і падтрымлівае слабых, суцяшае засмучаных і наведвае хворых, благаслаўляе і моліцца за нас. Заўсёды падае прыклад глыбокай малітвы, мудрага слова і духоўнай моцы. Кожнае казанне пробашча насычана светлай любоўю да Бога, Радзімы, людзей. Словы святара напаўняюць нашы сэрцы верай, надзеяй і любоўю да Пана Езуса Хрыста, за што мы яму вельмі ўдзячныя.

Наш пробашч – натура творчая, мэтанакіраваная. Усё ў яго атрымліваецца. Ён вельмі добры, чалавечны, інтэлігентны, мудры, справядлівы, цярплівы, старанны, безадказны, працалюбівы. З ім лёгка размаўляць.

А колькі мерапрыемстваў праводзіцца ў нашым касцёле! Яны не забудуцца, бо пакідаюць у сэрцах вернікаў глыбокі след.

Прыгожа і ўрачыста пробашч праводзіць хрышчэнне дзетак, удзяляе шлюб маладым. Не так даўно ў касцёле прайшло свята Першай Камуніі. Гэта свята не толькі для дзяцей, якія першы раз прынялі Цела Езуса Хрыста ў свае сэрцы, але і для ўсёй нашай парафіі. Увогуле, усё, што ладзіцца ў касцёле, праводзіцца з вялікай любоўю і адказнасцю.

Трэба адзначыць таксама зладжаную работу святара і касцёльнага камітэта як пры падрыхтоўцы і правядзенні свят, так і ў штодзённым жыцці пры вырашэнні розных праблем. Хіба не ўдасца пералічыць усё, што праведзена і зроблена за такі кароткі час у нашым касцёле. А якія ў пробашча планы! Незразумела толькі, калі ён адпачывае, таму што кіраваць такой вялікай парафіяй аднаму вельмі цяжка.

Мы, вернікі, дзякуем Богу за тое, што паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і сапраўднага гаспадара нашага касцёла. Выказваем падзяку святару за распалены агонь веры, шчырую малітву, адкрытае сэрца і самаадданае служэнне Богу і людзям. Таксама выказваем падзяку ксяндзам Андрэю Аніскевічу і Валерыю Аброшку за падтрымку і дапамогу нашаму святару.

Спадзяёмся, што ксёндз Павел яшчэ доўга будзе выпраменьваць святло любові і саграваць цяплом усіх нас. Нізкі паклон за нястомную працу, духоўную апеку, шчырую малітву, цярплівасць, дабрыню і разуменне.

Няхай Ваш святарскі шлях, паважаны ксёндз Павел, будзе асвечаны праменнямі Божай міласэрнасці.









РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч, святар рымска-каталіцкага абраду*

***26 чэрвеня – каментарый да літургіі слова на XIII Звычайную нядзелю*** *(Лк 9, 51–62)*

## Шукаць і рэалізаваць Божую волю

*Езус Хрыстус падчас свайго навучання на зямлі неаднаразова звяртаўся да сустрэчных людзей з заклікам: “Ідзі за Мною”. Некаторыя самі, зачараваныя Яго Асобай, пад уплывам хвіліннага энтузіязму заяўлялі: “Я пайду за Табой”. Здавалася б, менавіта такога спантаннага стаўлення Езус і чакаў. Тым часам св. евангеліст Лука запісаў незвычайны адказ, які атрымаў ад Збаўцы такі захоплены вучань. Езус выразна папярэдзіў яго аб наступствах прынятага рашэння, падкрэсліваючы цяжкасці і нязручнасці, звязаныя з выбарам шляху, які сёння свет называе хрысціянствам: “Лісы маюць норы, і птушкі нябесныя – гнёзды, а Сын Чалавечы не мае, дзе схіліць галаву” (Лк 9, 58). Гэта яскравы напамін аб тым, што вучань Хрыста на зямлі – усяго толькі пілігрым на шляху да вечнай радзімы ў Нябёсах.*

*Вельмі яскрава розніцу паміж падыходам да пытання паклікання ў Старым і Новым Запавеце паказваюць імшальныя чытанні на XIII Звычайную нядзелю. Ілля дазволіў Елісею развітацца са сваімі блізкімі, перш чым яны абодва адправяцца выконваць місію, дараваную ім Богам (1-ае чытанне, 1 Вал 19, 16b, 19–21). Між тым, на падобныя да паставы Елісея паводзіны людзей, якім сказаў “Ідзі за Мною”, Езус адрэагаваў інакш. Таму, хто хацеў “спачатку пайсці і пахаваць айца”, Ён рэзка сказаў: “Пакінь мёртвым хаваць сваіх мёртвых, а ты ідзі і абвяшчай Валадарства Божае”. Іншаму, які хацеў, як Елісей, проста развітацца са сваёй сям’ёй, Хрыстос адказаў: “Ніводзін, хто паклаў руку сваю на плуг і азіраецца назад, не надаецца да Валадарства Божага”.*

*Бог вызначае кожнаму чалавеку пэўную місію для выканання. Наша задача – пастаянна шукаць Божую волю і рэалізаваць яе ў штодзённым жыцці. Сутнасць нашага паклікання, незалежна ад таго, ці пакліка्ны мы жыць у сужэнстве, у манастве, у святарстве ці як самотная асоба ў свецкае, – заўсёды ісці за Хрыстом. Езус не чакае ад нас паспешных, неабдуманых рашэнняў. Нікому не абяцае, што выбар Яго шляху забяспечыць лёгкае і прыемнае жыццё без клопатаў, праблем, намаганняў, пакут.*

*А. Андрэй Крот, святар грэка-каталіцкага абраду*

***3 ліпеня – каментарый да другога чытання на XIV Звычайную нядзелю*** *(Гал 6, 14–18)*

## Каб заквітнеў крыж

*“Няхай мне не давядзецца хваліцца нічым, акрамя крыжа Госпада нашага Ісуса Хрыста, праз якога свет укрыжаваны для мяне, а я – для свету (Гал 6, 14)”, – кажа апостал Павел. Неяк дзіўна гучаць гэтыя словы. Як гэта – хваліцца крыжам? Крыж – гэта ж пакуты, іх можна спрабаваць пазбегнуць, маліцца, каб Бог іх забраў. Ці з пакорай трываць, бо Хрыстос цярпеў і нам загадаў. Але хваліцца?*

*У візантыйскай традыцыі значнае месца займае пахвала крыжу. Шмат спеваў, асабліва на свята Узвышэння пачэснага Крыжа, пачынаецца словамі “Радуйся, жыццядайны Крыжу” ці “Слаўны цуд!”. Чаму так праслаўляецца крыж? Таму што гэта не толькі прылада смерці, пакут ці пакарання. Гэта прылада Збаўлення: не толькі для чалавека, але і для ўсяго сусвету. Вось, напрыклад, спеў падчас ютрані: “Хай цешацца ўсе дрэвы дубовыя, бо іхная прырода асвяцілася праз Таго, хто іх спярша насадзіў, – Хрыста, які сам распасцёр рукі на дрэве. У дзень узвышэння мы ўзвялічваем Яго і пакланяемся Яго нашаму крыжу”.*

*Ёсць у іканаграфіі сюжэт, які называецца “квітнеючы крыж”. Прылада, на якой панёс смерць Госпад, малюецца не проста як скрыжаванне дзвюх бэлек, а як сапраўднае дрэва, пакрытае галінкамі ды кветкамі. Гэта вобраз новага райскага дрэва. Яно не нясе праклёну, як тое, з якога пакаштавалі Адам і Ева. Новае дрэва нясе збаўленне.*

*Думаю, нам будзе прасцей зразумець апостала Паўла, калі наш асабісты крыж з прылады мукі ператворыцца ў квітнеючае дрэва. Калі мы ўсвядомім, што тыя цярпенні, якія сустракаем у жыцці, – гэта не абавязкова пакаранне, а шанс нешта зразумець і чамусьці навучыцца. Зразумець, у чым мы памыляліся, навучыцца быць вернымі Госпаду. Аддаць свае праблемы Ісусу Хрысту. Адчуць, што наш маленькі крыж стаў часткай вялікага Крыжа Хрыстовага, які нясе збаўленне і нам асабіста, і ўсяму свету. І ўсклікнуць: “Радуйся, жыццядайны Крыжу, набожнасці неадольная сіла, брама райская, верных умацаванне, Царквы абарона! Табою тленнасць была знішчаная і адмененая, і папаптаная смерці ўлада, і мы ўзняліся ад зямлі да неба!” (Вершапесня на свята Узвышэння пачэснага Крыжа).*

## АНОНСЫ

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі, **спадара Шаўчука Аляксея Алегавіча,** які 25.09.2004 г. у парафіяльным касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне ўзяў шлюб са **спадарыняй Бузук Кацярынай Анатольеўнай,** просяць звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне па адрасе: вул. К. Маркса, 4, або па тэлефоне: (8 0152) 61-05-35.

Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб месцы побыту **спадара Шаўчука Аляксея Алегавіча**, просяць паведаміць аб гэтым у Касцёльны суд.

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем апекі Найсвяцейшай Маці, патрэбных Божых ласкаў, дароў Святога Духа, сіл і здароўя для рэалізацыі планаў ды зычлівых людзей на святарскім шляху.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі і Андрэй Слонімец*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ ЗАЛОГУ

*з нагоды імянін жадаем усіх ласкаў ад Панны Марыі, Божага благаслаўлення, добрых і сардэчных людзей на святарскім шляху, шчодрага плёну на Божай ніве, здзяйснення мар, а самае галоўнае – здароўя, шчасця і шмат сіл.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жырмунаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ РЭЙШАЛЮ

*з нагоды імянін жадаем, каб добры Бог адорваў Вас патрэбнымі ласкамі, а святы заступнік няспынна маліўся за Вас перад Божым тронам. Жадаем здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жалудка*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ

*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень, Езус заўсёды будзе Сябрам, а Марыя прытуляе да сябе.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Жодзішкаў і Іўя*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ АСТУКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення, добрага здароўя, супакою ў сэрцы, дароў Хрыста і зычлівых людзей побач. Хай Бог адорыць Вас ласкай і спакоем, а Маці Божая асвятляе шлях.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Індуры*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ БЕЛАНОСУ

*з нагоды імянін жадаем, каб кожны Ваш дзень быў шчаслівы, здароўе не слабла, а вера ўзмацнялася ў кожны момант. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая апекуецца Вамі.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Макараўцаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЛАЗОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем, каб кожны Ваш дзень быў асветлены прамянямі Божай міласэрнасці і напоўнены дарамі Святога Духа. Няхай Бог благаслаўляе Вас, а Маці Божая ахінае сваёй апекай.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Струбніцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ УРБАНУ

*з нагоды імянін жадаем стойкасці і цярплівасці ў выкананні святарскай паслугі, шчодрых Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Парэчча*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення, нястомнай апекі Панны Марыі і святога заступніка, душэўнага супакою, радасці, здароўя, стойкасці і моцы на святарскім шляху.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Барунаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПЯТРУ КУБЕЛЮ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці і душэўнага супакою. Няхай жыццёвы шлях будзе благаслаўлёны, Бог ахінае міласэрнасцю, а святы заступнік стала апекуецца.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Крупава і Валдацішкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, сілы, мудрасці і цярплівасці на святарскім шляху. Няхай міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца, Святы Дух спасылае свае дары, Панна Марыя ахінае любоўю і клопатам, а святы заступнік нястомна апекуецца.*

*Апостальскі рух “Маргарытка” і парафіяне з Варнянаў і Вароны*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ ЭТЭЛЮ

*з нагоды імянін жадаем, каб Божае благаслаўленне спадарожнічала Вам кожны дзень, Маці Божая апекавалася Вамі, а Святы Дух удзяляў свае дары і асвячаў дарогу да Пана. Моцнага здароўя, душэўнага супакою, моцы ў абвяшчэнні Божага слова, даверу і радасці ў адкрыванні таямніцы паклікання.*

*Касцёльны камітэт, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі парафіі Гродна-Вішнявец*

### ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ ПРОБАШЧ ЯН КУЧЫНСКІ!

*З нагоды імянін і дня нараджэння жадаем Вам Божага благаслаўлення і моцнага здароўя, цярплівасці, стойкасці, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай святы заступнік падтрымлівае Вас і дапамагае пераадольваць цяжкасці, а Пан Бог узнагародзіць за нястомную працу і малітву.*

*Працаўнікі гродзенскай катэдры і Пелагея*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МІХАЛУ ЛАСТОЎСКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя і радасці на ўсё жыццё. Няхай Бог благаслаўляе кожны Ваш дзень, а агонь любові і дабрыні, што палае ў Вашым сэрцы, ніколі не пагасне. Жадаем душэўнага супакою, заўсёды добрых і зычлівых людзей навокал, а таксама дасягнення ўсіх мэт.*

*Вернікі парафіі Маці Божай Вастрабрамскай, Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ СКУБУ

*з нагоды дня нараджэння, імянін і чарговай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем моцнага здароўя, мудрасці, непахіснай веры і добразычлівых людзей навокал. Няхай добры Бог благаславіць Вас за адданую паслугу, цудоўныя казанні і клопат пра збаўленне нашых душ. Нізкі паклон бацькам за сына святара!*

*Парафіяне дварэцкага касцёла*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ БЕЗЛЯПОВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем доўгіх гадоў жыцця, сіл для рэалізацыі Божых планаў, душэўнага супакою, сапраўднай радасці і нязгаснага запалу ў служэнні Богу і людзям. Жадаем таксама патрэбных Божых ласкаў, апекі Маці Божай і святога заступніка.*

*Вернікі парафіі Мсцібава*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЕГУ ЯНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя і радасці ад святарскай паслугі. Няхай з дапамогай Бога і добрых людзей рэалізуюцца Вашы намеры і планы, а Маці Божая ахоўвае ад зла і няўдач.*

*Парафіяне з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ САРЭЛУ

*з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення, здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, моцнай веры і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай міласэрны Езус апраменьвае сваім святлом.*

*Станіслава Сідаровіч, Люцыя Лабэцкая і Марыя Вішнеўская з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні.*
*Да Панны Марыі малітву ўзносім, за кожны Ваш дзень Пана Езуса просім. Хай будзе заўсёды здароўе, любоў і цяпло, жыццё каб цікавым і доўгім было, дарогі – шчаслівымі, а справы – удалымі, каб дома матуля заўсёды чакала. Ніякія цяжкасці хай Вас не страшаць: Пан Бог дапаможа ў цяжкасцях Вашых!*

*Парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Граўжышках*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ПРОБАШЧУ АНАТОЛЮ ЗАХАРЭЎСКАМУ І ПАЎЛУ ГАРДЗЕЙЧЫКУ

*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя на доўгія гады, сіл і цярплівасці. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе асвечаны прамянямі Божай міласэрнасці, а Маці Божая і святыя заступнікі заўсёды апекуюцца Вамі.*

*Парафіяне касцёла Маці Божай Шкаплернай у в. Жукойні Жалядзкія*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ПРОБАШЧУ ЯНУ ПУЗЫНУ І ПАЎЛУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем здароўя, радасці, цярплівасці, супакою, Божай ласкі і апекі святых заступнікаў. Няхай людская зычлівасць заўсёды Вам спадарожнічае, Пан Бог благаслаўляе святарскі шлях, а Анёл-ахоўнік супраўваджае ў кожнай справе.*

*Вернікі парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПЯТРУ КУБЕЛЮ

*з нагоды імянін, 55-годдзя з дня нараджэння і 28-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Евангелля, душэўнага супакою і патрэбных Божых ласкаў. Няхай Анёл-ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Маці Божая ахінае сваім плашчом.*

*Вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Крупаве*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РАДЗЮКУ

*з нагоды імянін жадаем душэўнага супакою, усмешкі на твары, моцнага здароўя, сіл і стойкасці на нялёгкай дарозе святарскай паслугі, шчодрых Божых ласкаў, няспыннай дапамогі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа і апекі святога заступніка.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ПАЎЛУ УРБАНУ, ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ, ПАЎЛУ ГАРДЗЕЙЧЫКУ І ПАЎЛУ РАМАНОЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, моцнай веры і надзеі, штодзённай радасці, Божай ласкі і дапамогі. Няхай Маці Божая ахінае Вас плашчом мацярынскай апекі, а святы заступнік дапамагае ў кожную хвіліну жыцця.*

*Вернікі парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ШАНЧУКУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, стойкасці і цярплівасці ў святарскай паслузе, штодзённай радасці і нязгаснага запалу веры. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а ўсе Вашы планы і намеры здзяйсняюцца з дапамогай Бога і святога заступніка.*

*Вернікі і Апостальства дапамогі чысцовым душам парафіі Гожа*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ АДАМОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя, радасці, поспехаў у паслузе, апекі Маці Божай і людской зычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і благаслаўлёным, а Бог адорвае Вас сваімі ласкамі. Дзякуем за дабрыню, шчырыя малітвы, мудрыя парады, добрае і чулае сэрца, навяртанне нашых душ.*

*Парафіяне касцёла Божай міласэрнасці ў Доцішках*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЯНУ РУШНІЦКАМУ

*з нагоды імянін жадаем, каб кожны Ваш дзень быў асвечаны Божым благаслаўленнем і напоўнены Яго ласкамі, Панна Марыя ахінала любоўю, а святы заступнік апекаваўся Вамі. Няхай здароўе мацнее, а радасць і супакой будуць вернымі спадарожнікамі ў жыцці. Мы дзякуем Пану Богу за Вас, бо заўсёды зразумееце, дапаможаце і знойдзеце патрэбныя словы.*

*Касцёльны камітэт, Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чысцовым душам і вернікі парафіі св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

### ПАВАЖАНЫМ КСЯНДЗАМ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ І ЯНУ ГАВЕЦКАМУ

*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, плёну ў паслузе на Божай ніве, вырашэння ўсіх задумак, Божых цнотаў, душэўнага супакою, святла Святога Духа і нястомнай апекі святога заступніка.*

*Легіён Марыі, апостальства “Маргарытка” і парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЯНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін сардэчна жадаем:*
*Жадаем з радаснай нагоды здароўе мець, са шчасцем быць,*
*Не знаць бяды. Жадаем згоды, да ста гадоў Вам зычым жыць.*
*Няхай заўсёды Бог абараняе ад зла, хваробы і журбы,*
*І ласку шчодра пасылае сягодня, заўтра і заўжды!*

*Легіён Марыі і апостальства “Маргарытка” касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ БЕЗЛЯПОВІЧУ

*з нагоды імянін жадаем здароўя на доўгія гады, поспехаў у паслузе, радасці і ўсмешкі на кожны дзень, добрых і зычлівых людзей на жыццёвым шляху, а таксама шчодрых Божых ласкаў.*

*Вернікі капліцы Вердамічы*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ

*з нагоды 35-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем натхнення Святога Духа на кожны дзень душпастырсткай паслугі і апекі Маці Божай. Няхай кожны дар, які атрымліваеце ад Усявышняга, будзе для Вас моцнай падтрымкай на жыццёвым шляху.*

*Вернікі парафіі Селіванаўцы і вёскі Плоскаўцы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АНАТОЛЮ ЗАХАРЭЎСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, сіл, душэўнага супакою і толькі радасных хвілін. Няхай добры Бог адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух апраменьвае сваім святлом.*

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міхалішкаў*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЭЙСМАНТУ

*з нагоды 9-ай гадавіны святарскага пасвячэння і імянін жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў і стойкасці ў святарскай паслузе. Няхай міласэрны Бог благаслаўляе кожную хвіліну Твайго жыцця, Езус падтрымлівае ва ўсім, а святы заступнік і Маці Божая нястомна Табой апекуюцца.*

*Мама і брат з сям’ёй*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ СКУБУ

*з нагоды дня нараджэння і імянін жадаем моцнага здароўя, аптымізму, шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Мы ўдзячныя Пану Богу за тое, што Вы ў нас ёсць, што прыходзіце да нас і нясеце Божае слова, святло, надзею і радасць. Няхай здзяйсняюцца ўсе Вашы мары і надзеі.*

*Вернікі парафіі Анёлаў Ахоўнікаў у Раготне*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ КАЛЕСНІКУ

*з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, цярплівасці, мужнасці, добрых і спагадлівых людзей. Няхай Пан Бог дадае Вам моцы, Святы Дух надзяляе мудрасцю, Маці Божая заўсёды аберагае, а святы Павел будзе прыкладам на жыццёвым шляху.*

*Літургічная служба алтара парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЯНОВІЧУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб Бог благаслаўляў у святарскай паслузе, Марыя ахінала апекай і дапамагала заўсёды і ўсюды, а кожны Ваш дзень быў напоўнены радасцю і супакоем.*

*Апостальства “Маргарытка” і Ружанцовае кола св. Юзафа з Воўпы*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ЗВЯЖЫНСКАМУ

*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, радасці, стойкасці і цярплівасці ў паслузе, шчодрых Божых ласкаў і нястомнай апекі Панны Марыі. Няхай кожны дзень прыносіць Вам радасць і сілы для абвяшчэння Божага слова.*

*Парафіяне касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯНУ КУЗЮКУ

*з нагоды імянін жадаем, каб Езус заўсёды благаслаўляў у душпастырскім служэнні, кожны дзень быў напоўнены сонечным святлом, радасцю і шчасцем, а Маці Божая нястомна ахінала плашчом мацярынскай апекі і любові.*

*Вернікі парафіі Маці Божай Вастрабрамскай, Гродна-Аўгустовак*

### ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ВІКТАРУ САВІЦКАМУ

*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчодрых ласкаў і дароў Божых на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы.*

*Вернікі капліцы Вінцукі*

### ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ

*з нагоды 35-ай гадавіны святарскага пасвячэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской зычлівасці і мноства Божых ласкаў. Няхай святы Казімір ва ўсім Вам дапамагае, а Святы Дух шчодра ўзнагароджвае сваімі дарамі.*

*Сям’я Бондзюш, в. Монькаўцы*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.***

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ААТ “Брэсцкая друкарня”,** 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.